


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 17 (153), СНЕЖАНЬ 2012 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Найпершы абавязак чалавека - быць такім, які ён ёсць, мець мужнасць сказаць: "Гэта добра, а вось гэта дрэнна".**

**Р. Ралан.**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ВЯРТАННЕ ДАЎГОЎ

**Апошнія два месяцы сыходзячага году для Гарадоччыны былі напоўнены рознай інфармацыяй, якая датычылася падрыхтоўкі да рэспубліканскіх Дажынак-2014.**

Падрыхтоўка Гарадка да гэтага свята ёсць кампенсацыя за дзесяцігоддзі млявасці мясцовых уладаў да вырашэння сацыяльна-эканамічных праблем. Не здарма кіраўніком штабу па падрыхтоўцы горада да свята будзе старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец.

Сапраўды, на працягу дзесяцігоддзяў планы Гарадоцкага райсавета і райвыканкама, выкладзеныя ў намерах на пяцігадку пераходзілі з невялікімі зменамі на чарговы тэрмін. Гэта датычылася і рэканструкцыі занядбанага Дома культуры і зачыненага кінатэатра і прыбудовы танцзала ля ДК. Аналагічныя планы пераходзілі з паперы ў паперу і па будаўніцтву біятлоннага стадыёна, лыжаролернай трас ў Вараб'ёвых гарах. Гэта датычыцца і Цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па зімовых відах спорту, які Савет Міністраў Беларусі вырашыў стварыць у Гарадку яшчэ ў снежні 1997 году. Але штосьці з гэтага пачало вымалёўвацца толькі напрыканцы 2012 году, калі гатэль "Раўбічы" і ФАК птушкафабрыкі пачалі існаваць у выглядзе абласной камунальнай уласнасці.

Гарадоцкі райвыканкам напрыканцы 2012 году апынуўся банкрутам па вырашэнню пераспелых пытанняў па развіццю сацыяльнай інфраструктуры рэгіёна. Магчыма, канешне спаслацца на тое, што абяцаныя абласныя Дажынкі 2012 году ў Гарадку накрыліся чым з Менску. Але ж нічога з таго, што павінна быць пабудавана да 2013 году так і не пачало будавацца, рэканструіравацца да гэтай восені. Ні Дом культуры, ні кінатэатр, ні лыжаролерная траса, ні басейн, ні... Адно, што здолеў зрабіць райвыканкам – прадаць амаль завершаны будынак танцзала прыватніку, каб мець "Шайбу" ля сваёй "брамы".

У гэтай сітуацыі старшыня аблвыканкаму А. Косінец працягнуў руку выратавання мясцовым "фантазёрам-папатапельцам" з белага будынку на Пралетарскай,2. Пры немагчымасці правядзення ў 2014 годзе рэспубліканскіх Дажынак у Віцебску аблвыканкам пачаў лабіраваць правязенне іх у Гарадку. Гэта канешне правільнае рашэнне наконт выканання тых planaў, якія яшчэ зімой 2010 году аблвыканкам пагаджаўся падтрымаць у Гарадку. Як дарэчы гатоў быў падтрымліваць і ў 2005 г., і ў 2000г., калі прымаліся пяцігадовыя планы сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Канешне, складана сказаць, якую долю адказнасці нясе аблвыканкам за тое, што да 2013 году сярэдні заробак на Гарадоччыне павінен дасягнуць у эквіваленце 790 даляраў ЗША. І наогул, ці нясуць якую небудзь адказнасць улады за невыканаными абяцанні? Бо ў лістападзе сярэдні заробак на Гарадоччыне адзін з ніжэйшых на Віцебшчыне – 2935 тыс. руб. – не дасягнуў і паловы абяцанага заробку.

Сёння ж Гарадоччына напярэдадні дзесяці "ўдарных" месяцаў доўгачаканыхператварэнняў у сацыяльна-эканамічнай сферы. Бо 1 лістапада 2013 году па ўказанню аблвыканкама вызначаны датай, калі асноўныя працы павінны быць выкананы. Канешне, гэта занадта аптымістычная дата, бо практыка мінулых гадоў сведчыць, што падрыхтоўчыя працы да Дажынак фінішуюць не раней, чым за тыдзень да свята.

Але і дваццаць месяцаў рэканструкцыі Гарадка сіламі раёна, вобласці ёсць добры падарунак па вяртанню тых даўгоў, якія назапасіліся за дваццацігоддзе нядбайнасці. І канешне, жадаема, каб гэтыя ператварэнне на справе садзейнічалі эфектыўнаму развіццю эканомікі Гарадоччыны, каб у іх было менш паказухі наконт перарокбі дахаў, фарбавання будынкаў. Каб перанос мясцовага рынку не стаў накаутам для многіх прадпрымальнікаў. Каб не шукалі месца "правадыру пралетарыята", які апынуўся на ўскрайку гісторыі, а ціха аддалі б яго, напрыклад, у былы калгас Леніна. Каб сродкаў хапіла не толькі зрабіць якасны біятлонны стадыён, лыжаролерную трасу, трасу са штучным снегам, але і гарналыжны спуск, і саначную штосезонную трасу, як робіцца ў Літве. Каб у рэшце-рэшт зробленыя працы вытрымалі выпрабаванне часам, а не разбураліся праз месяц пасля завяршэння Дажынак. Як гэта адбылося зараз у Горках.

**Леанід Гаравы.**

У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ

## АБЯЦАЮЦЬ СНЕЖАНЬСКІ СКАЧОК ЗАРПЛАТЫ

**Абяцанне старшыні Віцебскага аблвыканкама Аляксандра Косінца давесці сярэдні снежаньскі заробак у вобласці да пяці мільёнаў – 580 даляраўпадмацаваны адпаведнай паперай старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароны Аляксандра Хрыстафорава. Ёсць у ёй лічбы, якія датычацца і Гарадоччыны.**

На гэтым тыдні гар- і райвыканкамы вобласці і адпаведныя ўпраўленні атрымалі ліст старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароны Аляксандра Хрыстафорава "Аб узроўні заработнай платы на снежань 2012 года". Камітэт па працы, занятасці і сацыяльнай абароне аблвыканкама абгрунтоўвае механізм дасягнення сярэдняга заробку ў пяць мільёнаў на Віцебшчыне, які паабяцаў Аляксандр Косінец пад час сустрэчы з Аляксандрам Лукашэнка на ААТ "Віцебскдрэў". Чыноўнікі камітэта даслалі ў мясцовыя выканаўчыя структуры разлік нехапаючага фонду аплаты працы для дасягнення сярэдняга ўзроўня заробку ў 580 даляраў па вобласці ў снежні ў разрэзе кожнай адміністратыўнай адзінцы.

Адзначым, што дасягненне гэтага і вышэйшага заробку ставіцца перш за ўсё перад адміністрацыямі буйных гарадоў рэгіёна. Самая высокая планка паднята для Наваполацка ў 7050 тыс. рублёў, што вышэй лістападаўскага ўзроўню на 1565 тыс. рублёў. Для працаўнікоў г. Віцебска – у 5400 тыс. руб., г. Воршы – 5150 тыс. руб., г. Полацка – 5170 тыс. руб.

Для сельскіх раёнаў Віцебшчыны пастаўленыя заданні не дацягваюць да пяці мільёнаў паўсюдна, а для васьмі раёнаў не даходзіць і да чатырох мільёнаў. У гэтым ліку знаходзіцца і Гарадоцкі раён. Перад Гарадоцкім раёнам пастаўлена планка дасягнення сярэдняга заробка ў снежні на ўзроўні 3921 рубля. На гэты узровень неабходна скокнуць з лістападаўскай адзнакі ў 2935. Гэта значыць, што заробак трэба павялічыць на 33,6% ў параўнанні з лістападаўскімі. Нагадаем, што на пачатку года ў студзені на Гарадоччыне быў зафіксаваны сярэдні заробак у 1444 тыс. руб. і штомесячна ён у сярэднім да лістапада павялічваўся на 18,5%.

Для дасягнення неабходнага снежаньскага фонду аплаты працы неабходна прыцягнуць па вобласці каля 500 мільярдаў рублёў. Для 7599 работнікаў спісачнага складу Гарадоччыны гэта лічба роўна 7 млрд. 489 млн. рублёў.

**Л. Антонаў.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

## ПЕРШЫ КАТОК ЗІМОВАГА СЕЗОНУ

**На вуліцы Чырвонаармейскай каля рынку з-за нядбайнасці камунальнікаў утвараецца саматужны лядовы каток.**

На гэты зімовы сезон у Гарадку павінна быць створана як мінімум тры лядовых пляцоўкі. З першымі маразамі да стварэння лядовых пляцовак на стацыянарных месцах спартыўнай аддзела спорту і турызма Гарадоцкага райвыканкама шчэ не прыступілі, і адказныя арганізацыі Гарадка. Мусяць чакаюць другой паловы студзеня, як было ў мінулым зімовым сезоне. Але безгаспадарчымі дзеяннямі камунальных службаў райцэнтра на вуліцы Чырвонаармейскай ужо утвараецца саматробны каток. Па словах відавочцаў на працягу двух-чатырох тыдняў ля рынку з каналізацыі бруіць вада. І калі раней яна сцякалі ў бліжэйшы каналізацыйны люк, то зараз вада замярзае на вуліцы. Няма сэнсу казаць пра тое, што гэта стварае нязручнасці, як для наведвальнікаў рынку так і для аўтааматараў. Наогул, гэтая недарэчнасць на сумленні абыякавых чыноўнікаў, як ад улады, так і ад камунальных службаў, якія не адзін тыдзень назіраюць гэту безгаспадарчасць. Народ, як кажуць у такім выпадку, "безмолствует".

Безгаспадарчасць камунальных службаў праяўляецца не толькі ў тым, што утвараецца каток каля рынку, але і ў тым, што перад маразамі не было зроблена грэйдзіраванне вуліц прыватнага сектару. І новастворыныя калдобіны і ямы ўжо скоўвае мароз на доўгія чатыры месяцы. Усё гэта тыповы саўковы стыль адносін да працы, які культывуецца з самага вышэйшага ўзроўня: "Вось прыедзе барын, ён і рассудзіць".

**Л. Гаравы.**

***Ад рэдакцыі.*** Праз пару дзён пасля з'яўлення публікацыі на сайце ваду з вуліцы накіравалі ў каналізацыю, але ледзяныя бугры так і засталіся.



СПОРТ

## СТРАЛЬБА ПА ЧУЖОЙ МІШЭНІ

**На трэццім этапе Кубка свету па біятлону Надзея Скардзіна атрымала бронзавы медаль у спрынце. Наша Анастасія Дубарэзава на стойцы пераблытала мішэні і вяла стральбу па чужой мішэні.**

14 снежня спрынтам распачаўся апошні этап Кубка свету па біятлону ў гэтым годзе у жанчын у славенскім горадзе Паклюка. Лідэр беларускай каманды Дар'я Домрачава прапускала старт з-за невялікага недамагання, што аўтаматычна вядзе да прапускання і наступнай гонкі праследавання.

Нечаканую перамогу ў спрынце заваявала чэшка Габрыэла Соукалава, якая не дапусціла ні воднага промаха і паказала добры бег. Другое месца заняла немка Мэріам Гёснер, якая дапусціла два промахі, і прайграла чэшке 2,1 секунды.

Анастасія Дубарэзава хутка пачала бег у спрынце і была лідэрам перад першай стральбой, дзе на лёжцы мела адзін промах. Але ўсё змянілася для Анастасіі на стойцы, калі яна хутка растраляла ... чужую мішэнь. Пяць дадатковых кругоў адкінулі Дубарэзаву аж на 76 месца, пазбавіўшы далейшых стартаў у гэтым годзе. Непрыемная становішча напрыканцы года і нечаканы урок для далейшых стартаў.

Наша Надзея Пісарава заняла 21 месца з адным промахам, а ў лідэра гэтага сезону нарвежкі Туры Бергер узніклі праблемы са стральбой і лыжамі – яна апынулася на 27-месцы.

У суботнюю гонку пасьют адабраліся яшчэ дзве беларускі – Ірына Крыўко (52 месца) і Людміла Калінчык (54 месца). А ў нядзелю адбудзецца першы мас-старт гэтага сезону, дзе магчыма стартуе і Дар'я Домрачава.

Пасля гэтага для біятланістак настануць калядныя вакацыі і яны выйдуць на старты толькі 3 студзеня ў нямецкім Аберхофе ў жаночай эстафеце.

**Л. Антонаў.**

### Аб'ява

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**
**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**
**Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.**
**Рэдакцыя шукае дабраахвотных распаўсюджвальнікаў газеты "Гасцінец", а таксама аўтараў публікацый. Магчыма узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Звяртацца на тэлефон рэдакцыі.**

ЖЫВІ ЯК ГАСПАДАР

# ЛІДЭРЫ СЯРОД ПАРУШАЛЬНІКАЎ ЛЯСНОГА ЗАКАНАДАЎСТВА

**Віцебскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя па выніках планавай праверкі зафіксаваў найбольшую колькасць парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства ў філіяле Гарадоцкі лясгас ААТ «Віцебскдрэў»**

Паводле інфармацыі прэс-службы Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя за мінулы перыяд 2012 года ў адпаведнасці з каардынацыйным планам кантрольнай (наглядной) дзейнасці было праведзена 8 планавых праверак суб'ектаў гаспадарання, якія вядуць лясную гаспадарку. Пытанні выканання прыродаахоўнага заканадаўства праверены ў Верхнядзвінскім, Глыбоцкім, Дрэтуньскім, Пастаўскім, Талачынскім лясгасах, філіяле Гарадоцкі лясгас ААТ «Віцебскдрэў», ГПУ «Бярэзінскі запаведнік», ДЛГУ «Дзвінская эксперыментальная лясная база».

У выніку праведзеных праверак за парушэнні ў галіне аховы і выкарыстання лясоў да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 60 парушальнікаў заканадаўства. Накладзена штрафаў на суму26 млн. руб. Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 18 службовых асоб на суму 5,9 млн. руб., 13 юрыдычных асоб на суму 15,5 млн. руб., 29 грамадзян на суму 4,6 млн. руб.

Найбольшая колькасць парушэнняў ляснога заканадаўства ўстаноўлена пры праверцы філіяла Гарадоцкі лясгас ААТ «Віцебскдрэў», па выніках праверкі якога складзена 22 пратакола, накладзена штрафаў на агульную суму 11 млн. руб. Фактычна гэта боль трэцці складзеных пратаколаў і амаль палова ўсіх штрафаў па вобласці за парушэнне ляснога заканадаўства.

Па фактах прычынення шкоды навакольнага асяроддзі прад'яўлена 5 прэтэнзій на суму 20,7 млн. руб.Так, за незаконную высечку 58 дрэў у квартале 52 Смалоўскага лясніцтва філіяла Гарадоцкі лясгас ААТ «Віцебскдрэў» сума нанесенай шкоды склала 4,6 млн. руб. За знішчэнне маладняку на плошчы 3 га прызначанага для лесааднаўлення ў квартале 67 Пальмінскага лясніцтва філіяла Гарадоцкі лясгас ААТ «Віцебскдрэў» сума нанесенай шкоды склала 9,0 млн. руб.

Па выніках планавых праверак юрыдычных асоб якія вядуць лясную гаспадарку, прадпісана 161 мерапрыемства аб ліквідацыі парушэнняў.

**Т. Гаражанка.**

КНІГА СКАРГАЎ

# "Дошка ганьбы" ліквідавана

**На працягу трох месяцаў на стэндзе не аднаўляецца інфармацыя аб даўжніках камунальных паслугаў у Гарадку і раёне.**

Апошняя аднаўленне "Дошкі ганьбы" Гарадоцкага прадпрыемства кацельных было зроблена па стану на 28 жніўня. У гэтым спісе было 132 даўжніка і аб яго якасным змесце мы тады пісалі на сайце. Трэба адзначыць, што ўжо тады са стэнда зніклі два словы – "Дошка ганьбы". Гэта ўжо была інфармацыя аб даўгах грамадзян без ужывання зневажаючай годнасць грамадзян дадатка аб ганьбе. Але лёс дадзеной інфармацыі аказаўся такім жа, як і папярэдняй. Невядомыя зламалі пластык на стэндзе ізнішчылі інфармацыю аб даўжніках.

Пасля чарговага знішчэння спіса даўжнікоў кіраўніцтва Гарадоцкага прадпрыемства кацельных мусіць палічыла за лепшае не змяшчаць на стэнд спіс даўжнікоў, а працаваць з імі індывідуальна. І вось ужо на трэццім месяцы бяздзейнасці гэтага стэнда на ім сталі размяшчацца прыватныя аб'явы грамадзян, а таксама устаноў горада. Так клуб "Шайба" запрашае на сустрэчу Новага года з 24 па 31 снежня.

Сам жа гэты стэнд зусім не пасуе вуліцы ліхтароў у якую перatварылася ўжо частка вул. Савецкая. Але ён шчэ мо захаваецца да капітальнага дабраўпарадкавання Гарадка, якое павінна адбыцца перад рэспубліканскімі Дажынкамі 2014 года, калі яны адбудуцца ў Гарадку. Афіцыйнага рашэння аб падрыхтоўцы Гарадка да рэспубліканскіх Дажынак на сталічным узроўні шчэ не прынята.

**Л. Антонаў.**

ЗДАРЭННЕ

# «Жыгулі» занесла пад колы МАЗа

**Складаныя ўмовы надвор'я сталі прычынай трагедыі паблізу вёскі Кабішчараніцай 14 снежня.**

Як AUTO.TUT.BY паведамілі ў УДАІ МУС РБ, трагедыя адбылася раніцай у пятніцу, 14 снежня паблізу вёскі Кабішча Гарадоцкага раёна.

Кіруючы машынай «ВАЗ 2106», 46-гадовы кіроўца не справіўся з кіраваннем і выехаў на паласу сустрэчнага руху - пад колы МАЗу. У выніку сутыкнення 53-гадовы пасажыр «жыгулёў» ад атрыманых траўмаў памёр, кіроўца з цялеснымі пашкоджаннямі шпіталізаваны ў бальніцу. Трагедыя адбылася на мокрым асфальце ва ўмовах снегападу.

У такіх умовах нават вычышчаная і апрацаваная процігалалёднымі складам праезная частка не становіцца бяспечнай - патрабуецца час і пэўная інтэнсіўнасць руху транспартных сродкаў, каб сумесь пачатку «працаваць» і выконваць свае функцыі. Праца асабістага складу ДПС ДАІ арыентавана на аказанне дапамогі ўдзельнікам дарожнага руху, якія трапілі ў цяжкую сітуацыю на зімовай дарозе, экіпажы ДАІ патрулююць з уключанымі сінімі пробліскавымі маячкамі для прыцягнення ўвагі ўдзельнікаў дарожнага руху і папярэджання аварыйных сітуацый.

Паводле звестак УДАІ МУС, 14 снежня на дарогах рэспублікі зарэгістравана 457 ДТЗ з матэрыяльным уронам, здзейснена 15 ДТЗ, 3 чалавекі загінулі ў выніку двух лабавых сутыкненняў, 15 атрымалі раненні.

НАША СПАДЧЫНА

# Гарадоцкія чыноўнікі ігнаруюць указы Лукашэнка

Пры існаванні афіцыйна зацвярджаных сцяга і герба Гарадка і Гарадоцкага раена гэтыя геральдычныя атрыбуты не ўпрыгожваюць будынкі мясцовых органаў кіравання і самакіравання, не выкарыстоўваюцца дзеля выхавання мясцовага патрыятызму, дзеля папулярызацыі Гарадоччыны.

У студзені 2006 году Указам кіраўніком краіны была зацверджана палажэнне аб гербе Гарадка і Гарадоцкага раёна, а таксама яго апісанне. Наш герб уяўляе сабой малюнак, дзе ў залатым полі барочнага шчыта стаіць леў натуральнага колеру, які павярнуты направа.

Наш герб мае стараданюю гісторыю і паводле даных вядучага геральдыста краіны А. Цітоваўпершыню узгадваецца ў чатырнаццатым стагоддзі. Герб Леў шырока вядомы ў свеце. Гэты герб з'яўляецца сімвалам Чэхіі, Балгарыі, Эстоніі, Чарнагорыі і г.д., упрыгожвае адміністратыўныя будынкі ў Львове, Венецыі і г.д.. Леў і яго разнавіднасць леапард - адзін з найстарэйшых і самых папулярных геральдычных знакаў . Згодна з Лакіера, леў з'яўляецца сімвалам сілы, мужнасці і вялікадушнасці. Напрыклад, леў на гербе Венецыі адначасова сімвалізуе магутнасць і святасць Хрыста, але традыцыйна ён ўспрымаецца менавіта як сімвал евангеліста Марка - святога апекуна горада Венецыі і ўсіх, хто жыве ў ім.

У апошні дзень лютага 2011 году быў зацверджаны Указам і сцяг Гарадка і Гарадоцкага раёна. Сцяг уяўляе сабой прамавугольнае палотнішча з суадносінамі бакоў 1:2, якое складаецца з двух гарызантальных роўнавялікіх палос: верхняй - чырвонага і ніжняй - жоўтага колераў, у цэнтральнай частцы якога размешчана выява Льва на шчыце ў залатым поле.

Палажэннем аб выкарыстанні геральдычных сімвалаў прадугледжана, што яны павінны ўпрыгожваць будынкі органаў кіравання і самакіравання Гарадка і раёна – райвыканкам і сельсаветы. Таксама магчыма іх выкарыстанне на будынках пракуратуры і суда, дзе абавязкова размяшчэнне дзяржаўных сцягаў.

Але, нягледзячы на прайшоўшы час нашы геральдычныя сімвалы не ўпрыгожваюць будынкі органаў улады ў Гарадку і на раёне. Адпаведна не вядзецца праца па іх папулярызацыі сярод насельніцтва раёна. Між тым, нішто не перашкаджае ўвесці Дзень сімвалаў Гарадоччыны, напрыклад, 20 студзеня, калі быў зацверджаны герб – Леў у залатым полі. Таксама варта распрацаваць сэнсавае азначэнне герба і сцяга для выхавання мясцовага патрыятызму. І безумоўна, калі шмат мясцовыя кіраўнікі кажуць пра развіццё турызму, то трэба абавязкова забяспечыць выпуск сувенірнай прадукцыі з геральдычнай сімволікай.

**Л. Гаравы.**

# МАСАВАЕ ПАРУШЭННЕ ПРАЦОЎНАГА ЗАКАНАДАЎСТВА З БОКУ НАЙМАЛЬНІКА

**Кіраўніцтва ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" само дапускае масавае парушэнне працоўнага і адміністратыўнага заканадаўства ў змаганні з парушальнікамі дзеючага заканадаўства.**

Гарадоцкай пракуратурай праведзены аналіз выканання ў ААТ «Гарадоцкі РАПС» патрабаванняў заканадаўства, у тым ліку аб працы, у выніку якога ўстаноўлены неадзінкавыя факты парушэнняў дзеючага заканадаўства за 2011 і бягучы перыяд гэтага году.

Парушэнні працоўнай дысцыпліны носяць на прадпрыемстве масавы характар, як з боку працаўнікоў, так і кіруючых спецыялістаў. Але пры гэтым само кіраўніцтва прадпрыемства дапушчае парушэнні заканадаўства пры прыцягненні работнікаў да адказнасці.

Пункты 2 і 9 ч. 1 арт. 55 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь ўскладаюць на ААТ «Гарадоцкі РАПС» абавязак пры арганізацыі працы работнікаў забяспечваць працоўную і вытворчую дысцыпліну, а таксама выкананне заканадаўства аб працы. З мэтай стварэння ўмоў наймальнікам для забеспячэння належнай працоўнай і вытворчай дысцыпліны арт. 53 ПК Рэспублікі Беларусь устанаўлівае, што за невыкананне або неналежнае выкананне сваіх абавязкаў работнікі павінны несці адказнасць, прадугледжаную ПК Рэспублікі Беларусь.

Загадам «Аб дысцыплінарным спагнанні» ў студзені 2011 года за нездавальняючую арганізацыю працы на жывёлагадоўчай ферме Даўгаполле дырэктар па жывёлагадоўлі Буркенадзе Г.Г., кіраўнік Кавалёў А.М., брыгадзір Кірыяк Л.С. і кладаўшчыца Харошанькая Т.П. былі строга папярэджаны.

Між тым, у адпаведнасці з ч.ч. 1 і 3 арт. 198 ПК Рэспублікі Беларусь за здзяйсненне дысцыплінарнай правіны наймальнік можа прымяніць да працаўніка наступныя меры дысцыплінарнага спагнання: 1) заўвага; 2) вымова; 3) звальненне, у тым ліку за здзяйсненне прагулу або з'яўленне на працы ў стане алкагольнага ап'янення. Строгае папярэджанне ж не з'яўляецца дысцыплінарным спагнаннем.

25 студзеня 2011 года на ферме № 3 аддз. Даўгаполле жывёлаводы Карпенка В.А. і Шапялевіч В.В.выкралі 40 кг. камбікармоў. Гэты дробны крадзёж з'яўляецца адміністрацыйным правапарушэннем здзяйсненне якога цягне накладанне штрафу ў памеры ад дзесяці да трыццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт. Але насуперак патрабаванням арт. 55 ПК Рэспублікі Беларусь неабходная інфармацыя ад кіраўніцтва ААТ "Гарадоцкі РАПЗ" ў Гарадоцкі РАУС аб гэтым факце накіравана не была Адпаведна вышэй названыя асобам пазьбеглі ўсталяванай адміністрацыйнай адказнасці.

25 траўня гэтага года загадам № 85/2 аператар машыннага даення Панова А.В. падвергнута заўвазе за тое, што яна 22 траўня раніцай, знаходзілася на працоўным месцы, будучы ў стане алкагольнага ап'янення. У названых вышэй дзеяннях Пановай А.В. акрамя дысцыплінарнай правіны мае месца склад адміністрацыйнага правапарушэння. За гэта прадугледжана пакаранне па ч. 2 арт. 17.3 КоАП Рэспублікі Беларусь, але адпаведнага паведамлення ў Гарадоцкі РАУС ААТ «Гарадоцкі РАПЗ» зроблена не было.

Выкладзеныя вышэй факты адпаведных грубых парушэнняў працоўнай дысцыпліны фактычна былі пакінутыя без належнага рэагавання, што сведчыць аб неналежным выкананні ў ААТ «Гарадоцкі РАПЗ» патрабаванняў Дырэктывы № 1 «Аб мерах па ўмацаванню грамадскай бяспекі і дысцыпліны»(далей - Дырэктыва), у адпаведнасці з якой ўмацаванне дысцыпліны і правапарадку - найважнейшая аснова забеспячэння грамадскай бяспекі, паскарэння сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны, паляпшэння жыцця людзей.

У сваю чаргу непрыняцце вычарпальных мер па прыцягненню да адказнасці работнікаў прадпрыемства, якія дапускаюць грубыя дысцыплінарныя правіны, пагаршае працоўную дысцыпліну на прадпрыемстве, наносіць шкоду аўтарытэту кіраўніцтва прадпрыемства.

Акрамя таго на прадпрыемстве дапускаюцца неадзінкавыя факты парушэнняў патрабаванняў, якія вызначаюць парадак прымянення дысцыплінарных спагнанняў. Адпаведна нормаў права да прымянення дысцыплінарнага спагнання наймальнік абавязаны запатрабаваць пісьмовае тлумачэнне работніка. Адмова работніка ад дачы тлумачэння не з'яўляецца перашкодай для прымянення спагнання і павінна быць аформлена актам з указаннем прысутных пры гэтым сведак.

Так, загадамі на працягу мінулага і гэтага гадоў слесар Пракоф'еў А.А., спецыяліст па кадрах Куцакова С.І., брыгадзір МТФ Лажане Кавалеўскі М. М., а таксама жывёлаводы па дагляду за дойным статкам аддз. Мічурына Сцяпанаў В.Н., Бурдучэнка С.В., Спірыдонаў А.І., Сысоеў В.В., і Багданаў Н.С. былі падвергнутыя дысцыплінарным спагнанням ў выглядзе вымовы, але неабходныя тлумачэнні ў іх атрыманы не былі.

Аналагічна напрыканцы траўня гэтага года аператары машыннага даення Панова А., Барысенка А., Сяргун М. і Парякова Г. былі падвергнутыя дысцыплінарным спагнанням у выглядзе заўвагі, але тлумачэнні ў іх запатрабаваныя не былі. І адпаведна спагнанне з'яўляецца незаконным. Аналагічныя парушэнні ў арганізацыі дапушчаныя ў пераважнай большасці выпадкаў пры прыцягненні работнікаў да дысцыплінарнай адказнасці.

У адпаведнасці з ч. 5 арт. 199 ПК Рэспублікі Беларусь загад аб дысцыплінарным спагнанні з указаннем матываў аб'яўляецца работніку пад роспіс у пяцідзённы тэрмін. У парушэнне названай нормы пяць загадаў за аналізуемы перыяд работнікам пад роспіс абвешчаныя не былі. Адпаведна заканадаўства работнік, які не азнаёмлены з загадам аб дысцыплінарным спагнанні, лічыцца не маючым дысцыплінарнага спагнання.

Усе названыя парушэнні заканадаўства аб умацаванні грамадскай дысцыпліны сведчаць аб аслабленым увазе да гэтай праблемы кіраўніцтва ААТ «Гарадоцкі РАПЗ». У сувязі з чым, на адрас дырэктара ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзабеспячэнне» накіравана прадстаўленне аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства.

**Л. Антонаў.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# 2012 – НЕПЕРААДОЛЕНЫ БАР'ЕР




КАЛІ РАЗВІТВАЛІСЯ З 2010 ГОДАМ, БЫЛО ГОРКА ЗА НЯСПРАЎДЖАНЫЯ СПАДЗЯВАННІ І СТРАШНА ЗА БУДУЧЫНЮ. ПРАВОДЗІНЫ 2011-ГА — ЯК ПЕРАПРАВА ПРАЗ БУРЛІВУЮ РАКУ: ПАСЛЯ МУСІЦЬ БЫЦЬ ЛЯГЧЭЙ. НАПРЫКАНЦЫ 2012-ГА ЗРАЗУМЕЛА, ШТО ЎСЁ — І АДМОЎНАЕ, І ПАЗІТЫЎНАЕ — ЯШЧЭ НАПЕРАДЗЕ.

Пачыналі гэты год на хвалі эмоцый ад раптоўнага эканамічнага абвалу. І, хаця эксперты канстатуюць, што насельніцтва Беларусі збяднела, напрыканцы снежня стала вядома, што ў сярэднім па краіне атрымалася вярнуць заробкі на ўзровень канца 2010 года.

Так, міністр працы і сацыяльнай абароны Беларусі Марыяна Шчоткіна на днях заявіла, што ў рэспубліцы па выніках года сярэдняя заработная плата дасягне вызначанага Лукашэнкам узроўню ў 500 долараў у эквіваленце. Мантра «па пяцьсот», як бачым, працуе. Канешне, не трэба забывацца пра сярэднюю тэмпературу па бальніцы. Тым больш, гэта пацвярджае вывучэнне патэнцыйных заробкаў з базы вакансій — прапановы заробку да 2,5 мільёнаў беларускіх рублёў для рэгіянальных гарадоў надзвычай пашыраныя, і ад запаветных «усім па пяцьсот» гэта далёка.

На наступны ж год падрыхтаванае новае заклінанне: не так даўно міністр эканомікі Беларусі Мікалай Снапкоў заявіў, што ў новым 2013 сярэдняя зарплата беларусаў дарасце да 700 долараў. Кіраўнік Мінэканомікі выказаў упэўненасць, што заяўлены ў якасці прагнозная параметра ў 2013 годзе рост сярэдняй зарплаты па краіне да 700 долараў у эквіваленце будзе выкананы, рэзервы для гэтага ёсць.

Апроч эканамічных тэмаў, якія, безумоўна, кранaлі розум і душу большасці насельніцтва, цягам года ў Беларусі былі падзеі, цікавыя больш вузкай аўдыторыі. На жаль. Так, у сакавіку былі прыведзеныя ў выкананне смяротныя прысуды Дзмітрыю Канавалаву і Уладзіславу Кавалёву, якіх Вярхоўны суд прызнаў вінаватымі ў арганізацыі выбуху ў мінскім метро ў красавіку 2010 года. Справа была неадназначнай, назіральнікі апелявалі да шматлікіх нестасовак, супярэчнасцяў у доказнай базе. Тым не менш прысуд быў выкананы, і рэакцыя на яго была такой жа: адны ўхвалілі пакаранне, другія неслі партрэты Улада Кавалёва да мемарыяла побач з увaходам у метрапалітэн.

Напрыканцы года беларускія праваабарончыя арганізацыі назвалі праваабаронцам года Любоў Кавалёву — маці Уладзіслава, якая ўвесь гэты час змагалася за свайго сына, і працягвае гэта рабіць цяпер. Толькі ўжо ў спробах аднавіць яго добрае імя. Негатыўнай была рэакцыі і з боку Еўрапейскага саюза, адкуль прыйшло паведамленне, што «смяротнае пакаранне ў любых абставінах разглядаецца як жорсткае і бесчалавечнае пакаранне, якое перастае быць сродкам стрымлівання і ўяўляе сабой недапушчальнае адмаўленне чалавечай годнасці і недатыкальнасці».

На канец года ў Беларусі, паводле ацэнак праваабаронцаў, ёсць 12 палітзняволеных. Сярод іх і былы кандыдат на пасаду прэзідэнта Мікалай Статкевіч. «19 снежня 2010 года — дзень выбараў прэзідэнта — дата, якая стала кропкай незвароту, калі масавыя затрыманні, катаванні ў турмах і бяспраўе з боку сілавікоў стала ўвайшлі ў жыццё беларусаў», — эмацыйна пішуць праваабаронцы ў другую гадавіну падзей у дзень выбараў. Усе пералічаныя аспекты ўвайшлі ў жыццё беларусаў, але беларусы ў адказ на гэта пастараліся максімальна сысці ў свой свет, абстрагаваны ад палітыкі. Дом, сям'я, праца, пошук сродкаў на жыццё, эміграцыя (палітычная і эканамічная) — 2012 год стаўся годам абываецеля, калі на першы план выступілі патрэбы і зацікаўленасці з першых прыступак знакамітай піраміды Маслоў.

Да скандалу з невыкананнем плану па алімпійскіх медалях (але варта прызнаць, што беларуская зборная выступіла ўсё ж годна: 13 медалёў у 7 відах спорту; з іх 3 залатыя, 5 сярэбраных і 5 бронзавых) крыху пазней дадалося расчараванне ў сувязі з ануляваннем перамогі штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук — яе абвінавацілі ў прымяненні допінгу і забралі залаты медаль.

Тым не менш напрыканцы года ў беларусаў была нагода для гонару: ФК «БАТЭ» стаў чэмпіёнам у дзявяты раз і сёмы запар. Акрамя таго, у гэтым годзе БАТЭ выключна выступіў у Лізе чэмпіёнаў — каманда Віктара Ганчарэнкі атрымала перамогі над французскім ФК «Ліль» і нямецкай «Баварыяй». Гэта той выпадак, калі без загадаў зверху прадстаўнікі Беларусі дасягаюць поспеху. Застаецца верыць, што не за гарамі дзень, калі добрая воля і адчуванне ўласнай свабоды, а не пагрозы адправіцца на нары за нявыкананы разнарадкі зверху, будуць падштурхоўваць нашых суайчыннікаў да перамог і трыумфаў ва ўсіх сферах, і на тэрыторыі сваёй дзяржавы.

**Вольга Хвоін, "Новы час".**

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

# СЁНЬНЯ – ПАЎЛАВІЧЫ, А ЗАЎТРА – ТЫ

ДЫ З ЛЮДЗЬМІ ТРЭБА БЫЛО СПАЛІЦЬ ТЫЯ ХАТЫ Ў ВЁСЦЫ ПАЎЛАВІЧЫ ПАД ВІЦЕБСКАМ, ПІША СВЯТЛАНА КАЛІНКІНА Ў «НАРОДНАЙ ВОЛІ». ЛЮДЗЕЙ НА МАРОЗ З УСІМІ РЭЧАМІ, ЯК ПРЫ РАСКУЛАЧВАНЬНІ, — ГЭТА Ж САБЕ ВОРАГАЎ ПАКІДАЦЬ, СЬВЕДАК. А НАВОШТА НАШАЙ УЛАДЗЕ ВОРАГІ?.. НАВОШТА СЬВЕДКІ?.. ПАЛІЦЬ ТРЭБА БЫЛО! ЗЬНІШЧАЦЬ! СЬЦІРАЦЬ З ТВАРУ ЗЯМЛІ!

**Не дадумаліся. Усяленскай значнасьці падзея — Лукашэнка ў картэжы міма праедзе** і, можа, галаву ў гэты бок паверне. А тут — прыгажосьць. Чысьценькаробенька. Ніякіх развалюхаў, ніякіх незадаволеных асобаў. Ціха.

Поле... Ды такое, што проста падмецена. Значыць, рыхтаваліся, як ніхто раней. Можа, ацэніць...

Пах гару?.. **Наконт гару прэзыдэнт указаньняў не даваў**, толькі б сьмецьця не было.

...**Хто скажа, што віцебскія ўлады ў сваім розуме**, калі аддалі загад тэрмінова адсяліць, зьнішчыць, спаліць вёску, якая, хоць і фантомная, але жыла, агароды садзіла, нават на выбарах галасавала?

Ад фота, ад аповедаў людзей, якія ўсё гэта перажылі, ад сьведчаньняў журналістаў першая рэакцыя — шок.

У імя якой вышэйшай мэты людзей можна вось так? Без падрыхтоўкі, без папярэджаньня, не даўшы часу на зборы — выкінуць з абжытых дамоў у мароз. Яны ж усё жыцьцё гэта дабро нажывалі. Кожны тазік і чыгунок, кожны абрус. Гэта іх крэўнае, гэта іх жыцьцё. Нават калі юрыдычна гэта ўжо ня іх дамы, то гэта іх дошкі. Таму ўсё пайшло ў агонь, каб не мазоліць вачэй высокаму госьцю?

**Псыхоз і вар'яцтва.** Нездаровае жаданьне выслужыцца. Паталягічнае. Фанатычнае.

Ці страх. Такі, калі чалавек на ўсё гатовы. Калі ён сьляпы, глухі і ў нейкім сэнсе ўжо не чалавек зусім.

**Ці лютая, усёпаглынальная пагарда да ўсіх, хто статусам ніжэй.** Гэтакая ненармальная рэабілітацыя за ўласныя зьнявагі, якімі гэты статус здабываўся.

**Старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандар Косінец — доктар.** Ён умее ставіць дыягназы і, напэўна, сам абярэ, які варыянт больш падыходзіць. Але калі кіраўнік Савету бясьпекі ад нарады да нарады вяшчае, што нехта вядзе з беларускай уладай інфармацыйную вайну і мэтанакіравана спрабуе дыскрэдытаваць яе ў вачах народа, то я нават магу падказаць генэралу, дзе трэба нэўтралізоўваць пагрозу.

Пагроза — вось такія косінцы. Таму што ніякія ворагі ім не падказвалі, гэта яны самі дадумаліся да візыту Лукашэнкі выкінуць з дамоў людзей, а непрэзэнтабельную вёсачку проста спаліць.

І тым самым зрабілі максымум магчымага, каб увесьці ў ступар, у шок, у абурэньне ўсю краіну. Таму што кожны, хто даведаецца пра здарэньне, прыкладзе ўсю гэтую сытуацыю на сябе, і жахнецца. Таму што сёньня — Паўлавічы, а заўтра — ты. Сёньня — на мароз, а заўтра — разам з людзьмі.

Усякае было. Але такога ўсё ж такі раней не было...

САЦЫЯЛЬНЫЯ ПЫТАННІ

# ЦЭНЫ НА НАВУЧАННЕ Ў БЕЛАРУСКІХ ВНУ ТАРМАЗІЦЬ НЯМА ЧЫМ

ДАРУЧЭННЕ РАЗАБРАЦЦА З ВЫСОКАЙ ПЛАТАЙ ЗА АДУКАЦЫЮ КІРАЎНІК ДЗЯРЖАВЫ ЗРАБІЎ 21 СНЕЖНЯ ПАДЧАС НАВЕДВАННЯ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЕРСІТЭТА ІНФАРМАТЫКІ І РАДЫЁЭЛЕКТРОНІКІ. РАЗАБРАЛІСЯ ХУТКА.У ГЭТЫ Ж ДЗЕНЬ МІНІСТР АДУКАЦЫІ ЗАЯВІЎ, ШТО НЯМА НІ РЭСУРСУ ДЛЯ ЗНІЖЭННЯ ПЛАТЫ ЗА НАВУЧАННЕ, НІ ПАТРЭБЫ Ў ГЭТЫМ.

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што кошты на навучанне ў Беларусі «даволі высокія» і іх варта «прытармазіць»: «З гэтым трэба разабрацца». Звяртаючыся да кіраўніцтва Міністэрства адукацыі і Адміністрацыі прэзідэнта, кіраўнік дзяржавы заявіў: на першых двух курсах вучобы аплата павінна быць «зберагалай», а на старэйшых курсах - «трэба паглядзець».

У 2011-2012 навучальным годзе кошт навучання ў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установы Беларусі павышалася чатыры разы: 1 верасня 2011 года - прыкладна на 20%, у кастрычніку-лістападзе - на 25%, 1 лютага 2012 - на 29%, 1 чэрвеня - на 5%.

Каментуючы даручэнне кіраўніка дзяржавы, міністр адукацыі Сяргей Маскевіч заявіў, што ў Беларусі няма рэсурсу для зніжэння платы за навучанне ў ВНУ і патрэбы ў гэтым. «У нас датуецца платную адукацыю, траціна бягучых і капітальных выдаткаў аплачвае дзяржава. На наступны год у бюджэце краіны не запланаваны расходы на кампенсацыю студэнтам-платнікам», - паведаміў Маскевіч.

У любым выпадку, відавочна, што плацiць студэнтам даводзіцца нямала. Паводле звестак Мінадукацыі, у гэтым навучальным годзе кошт платнага навучання на дзённай форме ў ВНУ складае ад 7 млн. 153 тыс. рублёў (каля 800 даляраў) да 14 млн. 950 тыс. рублёў (1750 даляраў).

Пры гэтым у даляравым эквіваленце ў некаторых ВНУ кошт навучання нядацягвае да дакрызісных тарыфаў. Напрыклад, студэнту медуніверсітэта ў канцы 2010 года трэба было плаціць максімум 5 млн. 430 тыс. рублёў за год (1750 даляраў). Цяперашняя максімальная плата (лячэбнае справа) - 13 млн. 700 тыс. рублёў (1600 даляраў).

Беларускі дзяржаўны універсітэт лідзіруе ў кошту навучання ў Беларусі: максімальная аплата на першым курсе - 14 млн. 950 тыс. рублёў («правазнаўства» і «эканамічнае права» на юрыдычным факультэце, «міжнароднае права» на факультэце міжнародных адносін). Гэта 1750$ (па курсе 8540 рублёў за долар). На 1 верасня 2010 года навучання на самых дарагіх спецыяльнасцях БДУ складала 5 млн. 327,6 тыс. рублёў, або 1775 даляраў (пры курсе 3000 рублёў за долар).

Адзначым, што ў Беларусі налічваецца больш за 430 тыс. студэнтаў, з іх амаль 90% навучаюцца ў дзяржаўных ВНУ. Звыш 88 тыс. студэнтаў прынята на навучанне ў 2012 годзе. І толькі кожны трэці студэнт ВНУ краіны навучаецца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту. Такім чынам, большасць - платнікі.

Па-першае, павелічэнне набору за кошт платнікаў становіцца прычынай перагружанасці ВНУ і пагаршэння умоў навучання для ўсіх. Па-другое, студэнты-платнікі знаходзяцца на асаблівым становішчы. Няўдачнікаў платнікаў цягнуць з усіх сіл, таму што ВНУ ў іх матэрыяльна зацікаўлены. Плата студэнтаў вырашае праблему недафінансавання сферы адукацыі.

Кіраўнік дэпартамента палітычных навук Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ, Вільня) Віктар Марціновіч у каментары для Naviny.by сказаў, што палеміка паміж прэзідэнтам і міністрам у яго разуменні з'яўлялася «размовай рэаліста з папулістам»: «Для іміджу, рэйтынгу ўлады было б добра, калі б рост коштаў на адукацыйныя паслугі можна было спыніць, аднак для гэтага няма рэсурсаў ».

Марціновіч адзначыў, што ў цяперашні час пытанне, хто з'яўляецца электаратам Лукашэнкі, адкрыты. Мяркуючы па пачасціўшыхся сустрэчам з рознымі пластамі насельніцтва - ад дрэваапрацоўшчыкаў да студэнтаў - адбываецца пошук новай электаральнай базы.

«Звярніце ўвагу, - кажа Віктар Марціновіч, - прэзідэнт час ад часу кажа аб ліберадізацыі эканомікі, зніжэнні ўплыву дзяржавы на яе, што можа спадабацца нейкай часткі моладзевай аўдыторыі. Што датычыцца студэнтаў, трэба мець на ўвазе, што яны заўсёды і ўсюды супраць сістэмы. Таму Лукашэнка, які ўжо вельмі доўга знаходзіцца ва ўладзе, спадзявацца на падтрымку ў студэнтаў не даводзіцца ».

Гаворачы аб кошце навучання ў ВНУ Беларусі, Марціновіч адзначыў, што ён высокі. Ён прывёў прыклад: год у Сарбоне для першакурсніка, якое навучаецца па спецыяльнасці «юрыспрудэнцыя», каштуе 200 еўра і столькі ж трэба заплаціць за сацыяльную страхоўку. Марціновіч адзначае, што гэта звязана з тым, што сістэма платнай адукацыі ў Францыі існавала заўсёды. Там, у адрозненне ад Беларусі, пра бясплатную адукацыю ў Канстытуцыі нічога не напісана. Як вынік, сістэма працуе ў аптымальным рэжыме, а ў нас жа яна разбалансавана.

**Алена Спасюк, naviny.by**

НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЭНКА ВАЮЕ НА ДВА ЎНУТРАНЫХ ФРОНТА

ПЕРАДНАВАГОДНЯЯ РАЗДАЧА ПОЎХ БЕЛАРУСКАЙ НАМЕНКЛАТУРЫ ПРАЦЯГВАЕЦЦА. НАВЕДВАЮЧЫ 17 СНЕЖНІ СТАЛІЧНЫ "КАМВОЛЬ", АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА, АБУРАНЫ СТАНАМ СПРАЎ, ТУТ ЖА ЗВОЛЬНІЎ І ДЫРЭКТАРА ПРАДПРЫЕМСТВА, І КІРАЎНІЦТВА КАНЦЭРНА «БЕЛЛЕГПРАМ».

Новапрызначанага кіраўніка «Камволь», якому належыць выцягнуць ААТ з ямы, прэзідэнт даў наказ з бацькоўскай цеплынёй: «Не зробіш - пасаджу!». Заадно зрабіў апошняе папярэджанне ўраду Мясніковіча.

Чыноўнікі і дырэктарат ў апошнія месяцы дрэнна спяць і п'юць шмат валяр'янкі. Кіраўнік дзяржавы загадаў на 25-30% скараціць кіраўнічы апарат (гучна назваўшы гэта рэформай органаў улады), зняў кіраўніцтва спартыўнай галіны, звольніў кіраўніка КДБ, ну а ўжо галавы падпарадкаваных мяльчэй (у мінулым месяцы на «Івацэвічыдрэў», цяпер на «Камволь») ссякалі, як капусныя качаны.

Ліберальныя аглядальнікі цвердзяць, што Лукашэнка канчаткова зрабіў стаўку на закручванне гаек ва ўсіх сферах. А нядаўні дэкрэт № 9, абмежавальныя правы работнікаў звальняцца з прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі (у імя поспеху мадэрнізацыі галіны), называюць, спаборнічаючы ў хвосткім эпітэтах, увядзеннем прыгону і нават рабства.

Атрымліваецца, што беларускі прэзідэнт не шкадуе ні наменклатуру, ні свой традыцыйны электарат? Павёў вайну на два фронты?

Прэзідэнт вырашыў ўспомніць маладосць

Эксперты адзначаюць, што Лукашэнка спрабуе трасянуць даўнінай. У сітуацыі, калі абвастрыліся выклікі, ён «інтуітыўна ідзе на заціскванне гаек, звяртаецца да метадаў, якія прынеслі яму адносны поспех у 90-х гадах», заявіў у каментары для Naviny.by дырэктар па даследаваннях менскага «Ліберальнага клуба» Яўген Прэйгерман.

«Гэта вяртанне да метадаў 90-х гадоў», - лічыць, са свайго боку, і эксперт аналітычнага цэнтра «Стратэгія» Валерый Карбалевіч. У інтэрв'ю для Naviny.by ён нагадаў: тады малады прэзідэнт хацеў спадабацца народу і падносіў чыноўнікаў як галоўных ворагаў простага чалавека, часта практыкаваў іх публічныя разносы.

Але ў тлустыя 2000-я гады гэтая практыка амаль спынілася, Лукашэнка стаў падлашчвацца з кіруючым класам. Зараз жа, з аднаго боку, абвастрылася патрэбнасць мадэрнізаваць эканоміку, з другога - упаў рэйтынг. І Лукашэнка, на думку Карбалевіча, вырашыў ўспомніць прэзідэнцкую маладосць - стаў прыціскаць наменклатуру.

Але другі раз увайсці ў тую ж раку праблематычна. Па-першае, ва ўмовах, калі папулярнасць афіцыйнага лідэра ўпала (рэйтынг, па дадзеных НІСЭПД, вагаецца ў раёне 30%), роля апоры на наменклатуру аб'ектыўна ўзрастае.

Па-другое, загваздка ў тым, што цяпер даводзіцца адначасова прыціскаць і рабацяг. Хаця Лукашэнка па іроніі лёсу б'ецца над задачай зноў купіць іх добразычлівасць, аднавіць сацыяльны кантракт, які пахіснуўся пасля леташняга фінансавага абвалу.

Разлік на страх і пакорлівасць

Так, скандальны дэкрэт № 9 (дарэчы, пакорліва прыняты да ведама Палатай прадстаўнікоў як раз у дзень разносу на «Камволь») прадыктаваны фармальна добрымі намерамі падняць галіну і заробкі ў ёй, каб адтуль нікога калом ня выгнаць было. Але, разважае Валерый Карбалевіч, наколькі адпавядае сацыяльнаму кантракту тое, што Лукашэнка «спрабуе падняць зарплату з дапамогай прыгоннага права»?

Раней прэзідэнт тонка адчуваў у адносінах як з чыноўнікамі, так і рабацяг тую мяжу, за якую пераходзіць нельга, адзначае аналітык. Але цяпер «ён блізкі да таго, каб пераступіць гэтую мяжу».

Вядома, тут дзейнічае разлік на страх і маўклівасць. Гэта стан характэрна як для вярхоў, так і для нізоў. Лукашэнка трымае наменклатуру ў падпарадкаванні паказальнай лупцоўкай, пературхваннем кадраў. Магчымасць нейкага бунту на караблі, змовы (па сцэнары Крамля, напрыклад), палацавага перавароту практычна ўсім аналітыкам прадстаўляецца на сёння ілюзорнай.

Дарэчы, менавіта таму не можа быць патэнтаванай пераможнай стратэгіі для палітычнай апазіцыі. Сакралізаваная аднымі і развянчанай іншымі Плошча можа перамагчы толькі ва ўмовах расколу кіруючай эліты. Пакуль расколін не відаць і пад лупай. Але хто ведае, што будзе да 2015 году, калі працягнецца гэтая мадэрнізацыя ў стылі сякер-башка.

Ну а народ не столькі нават запалоханы (б'юць бо ў асноўным кропкава па нешматлікай інтэлігенцкай «пятай калоне»), колькі апалітычны і не верыць супернікам Лукашэнкі.

Але калі перапаўняецца чаша цярпення, маса хутка палітызуецца і знаходзіць стыхійных лідэраў. Так было вясной 1991 года, калі застылыя ў жаху насельнікі Дома ўрада ў Мінску ўбачылі пад вокнамі сто тысяч панурых пралетарыяў. Пры тым што Беларусь славілася апорай савецкага кансерватызму, «Вандэя перабудовы».

**Аляксандр Класкоўскі, "Белапан"**

ТАКАЯ МАДЭРНІЗАЦЫЯ

# ПРЫГОННАЕ ПРАВА Ў XXI СТАГОДЗЬДЗІ

АЛЯКСАНДАР ЛУКАШЭНКА ПАДПІСАЎ ДЭКРЭТ № 9 «АБ ДАДАТКОВЫХ МЕРАХ НА РАЗЬВІЦЬЦЁ ДРЭВААПРАЦОЎЧАЙ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ».

Згодна з дакумэнтам, работнікі галіновых прадпрыемстваў, якім аказваецца дзяржаўная падтрымка ў мадэрнізацыі вытворчасьцяў, будуць пераведзеныя на кантрактную форму найму.

Датэрміновае скасаваньне кантрактаў на час рэалізацыі інвэстыцыйных праектаў зь ініцыятывы супрацоўнікаў дапускаецца толькі са згоды наймальніка. Адмова наймальніка можа быць абскарджаная ў старшыні Менскага абласнога ці гарадзкога выканаўчага камітэту. З аднаго боку, прыбыткі ў дзяржаўным сэктары настолькі нізкія, што ўлады самі ж не пакідаюць іншага выйсьця, як шукаць шчасьця за мяжой. Зь іншага боку, цяперашняе заканадаўства не прадугледжвае ўвядзеньня «прыгоннага права», якім можна ўтрымліваць людзей на правах нявольнікаў.

Наведваючы пры канцы мінулага тыдня дрэваапрацоўчае прадпрыемства «Барысаўдрэў», Аляксандар Лукашэнка зрабіў гучную заяву. Ён распарадзіўся падрыхтаваць дэкрэт, згодна зь якім з прадпрыемстваў, якія мадэрнізуюцца за дзяржаўны кошт, звальняцца забараняецца. На думку Лукашэнкі, такі крок выгадны найперш самім працаўнікам, якія пасьля мадэрнізацыі заводаў у 2015 годзе пачнуць зарабляць «па тысячы даляраў».

Згодна з прэзыдэнцкім дэкрэтам, у выпадку парушэньня работнікамі працоўных абавязаньняў і звальненьня, сума атрымаsucc ных імі грашовых выплат падлягае вяртаньню за ўвесь пэрыяд працы.

Камэнтуе старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандар Ярашук: «Калі наша ўлада яшчэ больш хоча сябе дыскрэдытаваць і выклікаць абурэньне (дарэчы, справядлівае), то хай робіць такія захады. З майго пункту гледжаньня, улада першая расьпісалася ў няздольнасьці рэалізаваць годную эканамічную палітыку, што і прывяло да таго, што людзі вымушаныя зьяжджаць — калі гаварыць пра працоўную міграцыю. І калі яны, скажам, працаўладкаваліся ў Расеі з заробкам у некалькі разоў большым, то гэта адбылося не таму, што ім вельмі так карцела. Яны проста вымушаныя так рабіць, бо дзяржава не пакінула выбару. І пры гэтым ім яшчэ, напэўна, трэба сказаць дзякуй, бо тым самым яны зьнялі пэўныя праблемы і зь недарэчнай палітыкі ўладаў. Яны зарабляюць грошы, яны ўтрымліваюць свае сем'і, і любыя захады, каб нейкім чынам пакараць іх, у тым ліку што тычыцца абяцаньня 100-працэнтнага спагнаньня камунальных плацяжоў, я лічу, вядома ж, недапушчальнымі. Пра гэта і размовы быць ня можа».

Сытуацыя на прадпрыемствах і дрэваапрацоўчай галіны, і бальшыні іншых, падкантрольных дзяржаве, амаль што крытычная. З маральна састарэлых канвэераў выходзіць нікому не патрэбная прадукцыя, якая ў лепшым выпадку рэалізуецца на ўнутраным рынку.

У адсутнасьць экспартных паставак і, як вынік, валюты на рахунках абяцаньні выхаду на тысячу даляраў заробку выглядаюць утапічнымі. Супрацоўнікі таго ж «Барысаўдрэва» не хаваюць, што выжываюць на 150 даляраў у месяц, што ў 2-3 разы меней, чым сярэдняя пэнсія. У падвышэньне ў 6–7 разоў ня верыць практычна ніхто. Таму і лягічная тэндэнцыя: пабыўшы ў скуры жабракоў, масава зьяжджаюць на заробкі. Перадусім — у Расею, дзе такая ж праца ацэньваецца разоў у 10 вышэй.

Адмыслоўцы лічаць, што ўсё складаней утрымаць людзей на дзяржаўных прадпрыемствах нават абяцаньнямі заробку ў 500 даляраў, ня кажучы пра цяперашнія сярэднія 300. У беларускіх суседзяў прыбыткі ўжо даўно істотна перавышаюць гэты паказьнік — пры тым, што цэны на харчаваньне і асноўныя прадметы ўжытку як мінімум аналягічныя.

Калі ж разглядаць асобна дрэваапрацоўчую галіну, прасьвету і пагатоў не відаць. Паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэту, сёлета за 10 месяцаў адбылося зьніжэньне аб'ёму вытворчасьці па ўсіх асноўных таварных пазыцыях — пілаваных лесаматэрыялах, драўнянавалакністых плітах, шпоне і г.д. Растуць запасы гатовай прадукцыі: у цэлым па галіне — 64% сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасьці, а па асобных пазыцыях лічбы ўвогуле зашкальваюць. Так, запасы паркету перавышаюць 600% (!) сярэднемесячнага аб'ёму.

Не дадае падставаў да аптымізму і празьмерная закрэдытаванасьць прадпрыемстваў галіны: паводле дадзеных на 1 кастрычніка, крэдыторская запазычанасьць вырасла ад пачатку году амаль на 15%, дасягнуўшы 1 трыльёна рублёў. А запазычанасьць па крэдытах і пазыках інвэстыцыйнай накіраванасьці склала 3 трыльёны 300 мільярдаў рублёў.

**Ігар Карней, "Радыё Свабода".**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

# «БЕЛВЕСТ» ПАД ПАГРОЗАЙ СПЫНЕННЯ: РАХУНКІ АРЫШТАВАЎ ДЗЯРЖКАНТРОЛЬ

ПРАДПРЫЕМСТВУ НАЛІЧЫЛІ 8 МЛРД «ПАДАТКАЎ, ЗБОРАЎ, ПОШЛІНАЎ І ПЕНЯЎ». РАЗЛІКОВЫЯ РАХУНКІ ВЯДУЧАГА БЕЛАРУСКАГА ВЫТВОРЦЫ АБУТКУ, ВІЦЕБСКАГА «БЕЛВЕСТУ», ЗАБЛАКАВАНЫЯ.

Гэтую інфармацыю пацвердзілі TUT.BY некалькі крыніц. Супрацоўнікі прадпрыемства асцерагаюцца, што застануцца без заробку напярэдадні навагодніх святаў, абвінавачваючы ў гэтым прадстаўнікоў мясцовых дзяржорганаў.

У паведамленні прадстаўнікоў «Белвесту» сказана, што «Камітэт дзяржкантролю па Віцебскай вобласці, правёўшы праверку прадпрыемства, выявіў толькі станоўчыя і прыбытковыя вынікі працы. Пасля чаго дзяржорганы прынялі рашэнне, што з імі трэба дзяліцца». Таму 10 снежня напярэдадні выплаты зарплаты працоўным «службовымі асобамі Віцебскай падатковай інспекцыі былі арыштаваныя рахункі «Белвесту». У распараджэннях падатковай паказана, што «ў сувязі з невыкананнем або неналежным выкананнем ва ўстаноўлены тэрмін падатковага абавязацельства, несплатай пеняў, спагнаць падаткі, зборы, пошліны і пені за кошт грашовых сродкаў, якія знаходзяцца на разліковых рахунках плацельшчыка» на суму больш за 8 млрд рублёў.

На «Белвесце „сцвярджаюць, што ў іх „цалкам адсутнічаюць падатковыя і іншыя абавязацельствы перад бюджэтам". У той жа час банкамі прыпыненыя ўсе аперацыі па рахунках.

У „Белвеста" маюцца абавязацельствы па сацыяльнай абароне працоўных — „уласны пункт аховы здароўя, сталовая, якія патрабуюць штодзённых бесперапынных выдаткаў для належнага абслугоўвання работнікаў, выканання мер па ахове працы". „Прыпыненне ўсіх аперацый па рахунках наносіць непапраўную шкоду і ў сферы гаспадарчай дзейнасці — немагчыма своечасова выконваць крэдытныя абавязацельствы перад банкамі, абавязацельствы перад пастаўшчыкамі, ажыццяўляць закупкі сыравіны, матэрыялаў і абсталявання для вытворчасці абутку. Такім чынам, да Новага года без сродкаў да існавання застануцца больш за 2 тысяч працоўных; спыніцца вытворчасць абутку", — гаворыцца ў лісце супрацоўнікаў Белвесту».

У Камітэце дзяржкантролю па Віцебскай вобласці сказалі, што «праверка» Белвесту «працягваецца».

На абутковым прадпрыемстве ўдакладнілі, што кантралёры цяпер знаходзяцца на дачэрнім прадпрыемстве — «Белвестрытэйл».

У цяперашні час ільвіная доля прадукцыі «Белвесту» рэалізуецца ў РФ, дзе адкрыта вялікая сетка фірмовых крамаў.

Месяц таму Аляксандр Лукашэнка заявіў, што абутковая галіна Беларусі паразітуе на золатавалютных рэзервах дзяржавы. Ён таксама раскрытыкаваў прапановы ўрада па стварэнні гарбарна-абутковых холдынгаў.

**TUT.BY**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 28.12.2012 у 18.25.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.